







АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

13 верасня 2000 года
Цана 90 рублёў

№ 37 (2699)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

ЗВЕРЫМ ЧАС



● Аляксей МАЦЮШКОЎ.

Гадзіннік на будынку Галоўпаштамта ў Мінску добра ведаюць і госці, і мінчане. Тут назначаюць спатканні і дзелавыя сустрэчы, а многія звяраюць свае гадзіннікі або даведваюцца пра дакладны час розных часавых паясоў свету. Вось ужо дваццаць гадоў за дакладнасцю ходу галоўнага мінскага гадзінніка сочыць майстар гадзіннікаў Анатоль Старавойт.

НА ЗДЫМКАХ: каля галоўнага мінскага гадзінніка Анатоль СТАРАВОЙТ (справа) і інжынер Галоўпаштамта па абсталяванню і гадзіннікафікацыі Аляксандр КАБЕЦКІ.

ЗНАЙСЦІ ЧАЛАВЕКА

**МАШЫНА АНДРЭЯ БУБАШКІНА "ВЫПЛЫЛА" Ў КАЛІНІНГРАДЗЕ.** 5 ліпеня бягучага года ў № 27 "Голасу Радзімы" мы паведамлялі аб пошуку беларускага акцёра Андрэя Бубашкіна, які знік па дарозе з Германіі ў Мінск у маі-чэрвені 1999 года. Да гэтага часу аб лёсе Андрэя нічога невядома.



Справа крыху рушылася з месца, калі ёю зацікавіліся аўтары папулярнай перадачы Грамадскага расійскага тэлебачання (ГРТ) "Чакай мяне". Знойдзена машына А. Бубашкіна. У адказе на запыт старшыні Камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы верхняй палаты беларускага парламента Мікалая Чаргінца з Дзяржаўнага мытнага камітэта РБ паведамілі, што сапраўды 4 чэрвеня 1999 года (А. Бубашкін адправіўся ў дарогу 30 мая) гэтая машына ("Honda civic" MS 121C) была афіцыйна зарэгістравана ў Калінінградскай вобласці. Сцвярджаецца, што новы ўладальнік законна набыў машыну, на якой А. Бубашкін вяртаўся дадому праз Шчэцінскую аўтабазу. Якім чынам машына трапіла з Польшчы ў Расію? Які лёс Андрэя Бубашкіна? Гэтыя пытанні па-ранейшаму застаюцца без адказу. Пошук працягваецца.

ВЫБАРЫ

## ЦІ МАГЧЫМЫ КАМПРАМІС?

**30 ЖНІЎНЯ ў Вене прайшла трэцяя тэхнічная канферэнцыя, на якой былі разгледжаны ўмовы правядзення парламенцкіх выбараў у Беларусі. Былі заслуханы даклады прадстаўнікоў урада краіны і членаў кансультатыўнага савета апазіцыйных партый. Па выніках канферэнцыі прыняты рэкамендацыі для міжнародных арганізацый адносна магчымасці накіравання ў Беларусь назіральнікаў на выбары.**

У сувязі з гэтым вялікае значэнне канферэнцыі надавалі як улады, так і апазіцыя. Улады імкнуцца дабіцца прыезду міжнародных назіральнікаў на выбары, паколькі гэта, паводле некаторых меркаванняў, само па сабе ўжо азначала б прызнанне выбараў і легітымізацыю Палаты прадстаўнікоў, якая дагэтуль не прызнавалася як паўнацэнны заканадаўчы орган некаторымі міжнароднымі структурамі. Апазіцыя ж, якая аб'явіла байкот выбараў, усімі сродкамі спрабавала дабіцца, каб назіральнікі не былі дасланы, што, на іх думку, сведчыла б аб непрызнанні выбараў.

Напрыклад, лідэр Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, вярнуўшыся з Вены, падкрэсліў, што для яго групы "галоўнай задачай было дабіцца, каб у Беларусі не было міжнароднага назірання, каб сюды не прыехала паўнацэнная, паўнакроўная місія, як у 1995 годзе, калі толькі ад АБСЕ прыбыло каля 200 чалавек". Старшыня АГП не без задавальнення заявіў, што гэта задача выканана, і, па яго словах, "міжнароднага назірання за выбарамі ў Палату прадстаўнікоў не будзе".

Але далей ён пярэчыць сваім жа словам, прызнаўшы, што "поўную перамогу за той час, які застаўся да выбараў, можа атрымаць як апазіцыя, так і ўлады". Да таго ж А. Лябедзька прызнаў, што рашэнне структур, якія сабраліся ў Вене, не задавальняе ў поўнай меры і апазіцыю і што яно з'яўляецца вынікам пошуку кампрамісу, вынікам "ліхаманкавага пошуку рашэння паміж палярнымі падыходамі".

Заканчэнне на 2-й стар.

ДАСЛЕДУЕМ ПРАБЛЕМУ

## ХТО ДАПАМАГАЕ БЕЖАНЦАМ?

Беларускае тэлебачанне штодзённа паказвае два рэкламныя ролікі, прысвечаныя бежанцам. Адзін вельмі прыгожы, з якога даведваешся, што калісьці бежанцамі былі Зігмунд Фрэйд, Марлен Дзітрых, іншыя таленавітыя людзі, якія прымножылі славу краін, што іх прытулілі. А другі — пра тое, як страляюць з танка ў дагледжаны дом, адкуль выбягаюць бацькі з дзецьмі. Яны, мяркуючы па ўсім, кідаюцца шукаць прытулку ў іншых месцах — і як рэзюмэ: такое можа здарыцца і з вамі. Як адносіцца да бежанцаў, хто здзяйсняе абарону іх правоў, — гэтыя пытанні перш за ўсё цікавяць Упраўленне Вярхоўнага Камісара ААН па справах бежанцаў, Чырвоны Крыж.

Сёння да вашай увагі інтэрв'ю газеце "Голас Радзімы" прадстаўніка Упраўлення Вярхоўнага Камісара ААН па справах бежанцаў у Беларусі спадара Богдана НАГАЙЛЫ.

Заканчэнне на 2-й—3-й стар.

СПОРТ



**КАРАТЭ.** У чэмпіянаце Еўропы па каратэ ўдзельнічалі спартсмены з 24 краін, у тым ліку і беларускія — з Наваполацка, Магілёва, Мінска і Гомеля. Выдатныя вынікі паказалі прадстаўнікі магілёўскага спартыўнага клуба "Шыта-Кай" Іна МАРОЗАВА, якая заняла першае месца, і Ігар ФІГУРЭНКА, які стаў чацвёртым. Іна і Ігар даўно займаюцца каратэ, трэніруюць падлеткаў у магілёўскім маладзёжным цэнтры "Руно".

БелТА.

ВЫБАРЫ

# ЦІ МАГЧЫМЫ КАМПРАМІС?



*На пытанні журналістаў адказвае міністр замежных спраў Урал ЛАТЫПАЎ.*

У той жа дзень на прэс-канферэнцыі ў Міністэрстве замежных спраў гучалі абсалютна процілеглыя словы. Прэс-сакратар Павел Латушка паведаміў, што, згодна з рэкамендацыямі канферэнцыі, назіральнікі ў Беларусь прыедуць. А міністр замежных спраў Урал Латыпаў увогуле назваў заключэнні канферэнцыі "вельмі рэалістычным крокам".

Як сведчыць тэкст рэкамендацый канферэнцыі, ні адзін, ні другі бок не дасягнулі поўнай "перамогі". Міжнародныя арганізацыі спыніліся на сярэднім варыянце. Напрыклад, з аднаго боку, у тэксце рэкамендацый сцвярджаецца, што ў Беларусі "дасягнуты прагрэс на чатырох асноўных напрамках, якія адносяцца да арганізацыі дэмакратычных выбараў і якія былі асноўнай тэмай міжнародных кансультацый", але, з іншага боку, напісана, што "гэты прагрэс усё яшчэ недастатковы для дасягнення ўзгодненых міжнародных крытэрыяў". Далей сцвярджаецца, што, хаця прававыя рамкі для правядзення выбараў палепшаны, іншыя рамачныя рэкамендацыі — доступ да СМІ, функцыі парламента, "перыяд даверу"... — да апошняга часу не былі зменены настолькі, каб агульныя ўмовы ў гэты час маглі быць ацэнены як здавальняючыя". Тым не менш, удзельнікі канферэнцыі пагадзіліся, што "змяненне рамачных умоў парламенцкіх выбараў робіць магчымым накіраванне тэхнічнай місіі па ацэнцы, якая будзе арганізавана і разгорнута Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека ў цесным супрацоўніцтве з КНГ АБСЕ".

У тэксце ёсць словы пра неабходнасць парламенцкай тройкі дзейнічаць і далей у якасці назіральнікаў "у той ступені, якая дазволіць ім даць аб'ектыўную ацэнку выбарчага працэсу". Але адначасова ў рэкамендацыях сцвярджаецца, што прысутнасць парламенцкай тройкі і тэхнічнай місіі БДІПЧ і КНГ АБСЕ "не з'яўляецца актам міжнароднага дэмакратычнага характару і выніку парламенцкага выбарчага працэсу". Дарэчы, пад гэтым пунктам не падпісалася дэлегацыя СНД і Міжпарламенцкай асамблеі СНД. Але, бадай, пунктам, які цалкам не расстаўляе кропак над "і", з'яўляецца наступны: "Рэкамендацыі могуць быць перагледжаны ў выпадку паляпшэння ці пагаршэння сітуацыі ў Беларусі". На падставе гэтага ў абодвух бакоў з'явілася магчымасць па-рознаму інтэрпрэтаваць рашэнне канферэнцыі. Прынамсі, сведкамі гэтага мы ўжо паспелі стаць. Але пераканацца, хто ў гэтай сітуацыі мае больш рацыі, грамадзяне Беларусі змогуць толькі, дачакаўшыся 15 кастрычніка.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

Пачатак на 1-й стар.

УЗНАГАРОДЫ

**ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ ЎЗНАГАРОДЖАНЫ ОРДЭНАМ ХАСЭ МАРЦІ.** Вышэйшай узнагародай Кубы — ордэнам Хасэ Марці — узнагароджаны Прэзідэнт Беларусі А. Р. Лукашэнка. Гэта ўзнагарода прысуджана яму за выдатныя заслугі ва ўмацаванні дружбы з кубінскім народам і салідарнасць з ім. Ордэн беларускаму кіраўніку, які знаходзіўся на Кубе з афіцыйным візітам, уручыў Старшыня Дзяржаўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Куба Фідэль Кастра.

**БелТА.**

НАПЯРЭДАДНІ

**У МІНСКУ ПРОЙДЗЕ З'ЕЗД САВЕТАЎ.** 29 верасня ў Мінску плануецца правесці З'езд Саветаў.

Як заяўляюць арганізатары, гэты з'езд запатрабаваны і пройдзе без залішняй пампезнасці. На адкрыццё запрошана больш за 1 500 дэпутатаў, таксама прымуць удзел прадстаўнікі ад партый, грамадскіх арганізацый, кіраўнікі прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў.

На з'ездзе плануецца абмеркаваць пытанні рэфармавання мясцовага самакіравання, атрымання ім дадатковых функцый і правоў. Будуць узняты праблемы фінансава-эканамічнага, сацыяльна-палітычнага, кадравага плана. Рыхтуецца праект кодэкса "Аб мясцовым самакіраванні".

Сёння Беларусь з'яўляецца адзінай рэспублікай з краін былога СССР, дзе ў поўным складзе захаваліся ўсе Саветы. У мінулым годзе адбыліся выбары ў органы мясцовага самакіравання. Грамадзяне выказалі давер больш як 24 тысячам дэпутатаў. Зараз у краіне налічваецца 1 694 Саветы, якія працуюць у поўным аб'ёме.

Такім чынам, як падкрэсліў член аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенню з'езда Анатоль Красуцкі, лозунг: "Уся ўлада Саветам" застаецца актуальным для Беларусі і зараз.

**Павел САМЕЦ.**

ЗДАРЭННІ

**У ТЭЛЬ-АВІВЕ ЗАТРЫМАНЫ ЗЛАМЫСНІК, ЯКІ ЎЧЫНІЎ ПАДПАЛ БУДЫНКА, ДЗЕ ЗМЕШЧАНЫ ОФІС ПРАДСТАЎНІЦТВА БЕЛАРУСКАЙ АВІЯКАМПАНІІ "БЕЛАВІЯ".** Як стала вядома БелаПАН, у сталіцы Ізраіля Тэль-Авіве затрыманы зламыснік, які ўчыніў падпал пяціпавярховага будынка, дзе разам з іншымі ўстановамі знаходзіўся і офіс прадстаўніцтва беларускай авіякампаніі "Белавія". Усяму будынку быў нанесены значны матэрыяльны ўрон, у прыватнасці, у офісе прадстаўніцтва "Белавія" агнём знішчана тэхніка, мэбля, дакументацыя. Паводле слоў супрацоўніка беларускай авіякампаніі ў Тэль-Авіве Ігара Гаўрылюка, у такіх экстрэмальных умовах супрацоўнікі прыклалі вялікія намаганні, каб пасажырскія авіярэйсы "Белавія" выконваліся бесперапынна.

Падпал учыніў 34-гадовы ізраільцянін, у мінулым — заўсёдны наведвальнік секс-шопаў, начных клубаў, публічных дамоў. Дзевяць гадоў таму ён прыняў іудаізм, ператварыўся ў рэлігійнага фанатыка і вырашыў такім чынам "ачысціць горад ад агіды".

**"Голас Радзімы" выказвае глыбокае спачуванне намесніку Генеральнага сакратара Савета Міжпарламенцкай Асамблеі СНД ад Беларусі Камарову Леаніду Захаравічу ў сувязі з вялікім горам, якое яго напаткала, — смерцю СЫНА СЯРГЕЯ.**

ДАСЛЕДУЕМ ПРАБЛЕМУ




Пачатак на 1-й стар.

**— Спадар Нагайла, растлумачце, калі ласка, хто такія бежанцы, з пункту гледжання вашай арганізацыі.**

— Ва ўсходняй Еўропе бежанцам лічыцца кожны, хто быў вымушаны пакінуць свой дом, — гэта і экалагічныя мігранты, і асобы, якія з-за знешніх ці ўнутрыдзяржаўных умоў і абставін перамяшчаюцца ў межах адной краіны. Але ж у міжнароднай практыцы існуе трохі іншае разуменне. Вызначэнне тэрміна "бежанец" было дадзена ў "Канвенцыі аб статусе бежанцаў" 1951 года. Па ім бежанец — асоба, якая вымушана бегчы са сваёй краіны з-за праследавання па прызнаку расы, грамадзянства, веравызнання, палітычных перакананняў, прыналежнасці да пэўнай сацыяльнай групы і шукаць прытулку на тэрыторыі іншай дзяржавы. Факт пераходу мяжы з'яўляецца тут абавязковым.

Такі чалавек пакідае радзіму, каб за рубяжом шукаць міжнароднай абароны, бо родная дзяржава не можа ці не хоча больш ахоўваць свайго грамадзяніна, а часам нават пагражае знішчэннем. Таму Генеральная Асамблея ААН рэкамендуе нам прымяняць мандат УВКБ ААН шырэй, напрыклад, адносна людзей, якія апынуліся ў становішчы, падобным да бежанцаў.

З моманту рэгістрацыі заявы аб прызнанні чалавека бежанцам да набыцця статуса ці адмаўлення ў ім па заканадаўству РБ ісцец называецца асобай, якая шукае прытулку. Кожны, хто апынуўся ў падобнай сітуацыі, мае права на міжнародную ахову з моманту перасячэння мяжы да канчатковага рашэння па яго справе. І галоўнае: чалавек не можа быць высланы ў краіну, дзе яму пагражае небяспека.

ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ



● **Аляксандр ТАЛОЧКА.**

Вучоныя НДІ і клінікі радыяцыйнай медыцыны і эндакрыналогіі выкарыстоўваюць найноўшыя тэхналогіі для дыягнаставання насельніцтва, якое пацярпела ад аварыі на ЧАЭС. У навукова-практычнай лабараторыі радыяцыйнай цытагенетыкі вызначаюць пашкоджанне храмасом пад уздзеяннем радыяцыі і біялагічную дозу апраменьвання. Такое поўнае абследаванне асабліва актуальнае для ліквідатараў і дзяцей, якія пражываюць у зоне павышанай радыяцыі. За дзесяць гадоў работы лабараторыі тут бясплатна прайшло абследаванне звыш 2,5 тысячы чалавек. Хаця такое дыягнаставанне і неабходныя для гэтага рэактывы вельмі дарагія (за мяжой яно каштуе ад пяцісот да васьмісот долараў ЗША), пацыентам у Аксакаўшчыне яно робіцца бясплатна.

НА СЛЫХУ

# Мітрапаліт ФІЛАРЭТ: «УСЯКАЕ А АСАБЛІВА Ў ЦАРКВЕ АБО

*У Рускай Праваслаўнай Царквы, якая дзейнічае на ўсёй тэрыторыі былога Савецкага Саюза — СНД і Балтыі, — адбылася падзея вялікага значэння — Архірэйскі Сабор. Удзел у ім прымалі восем архірэяў з Беларусі. Сярод іх, вядома, — Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. У гутарцы з карэспандэнтам уладыка Філарэт дзеліцца сваімі развагаюнямі аб Архірэйскім Саборы і яго гістарычным значэнні.*

— Руская Праваслаўная Царква — гэта гістарычная назва нашай Царквы, якую мы можам яшчэ называць Маскоўскім Патрыярхатам, як называем мы Патрыярхаты Канстанцінопальскі, Александрыйскі, Антыёхійскі, Грузінскі, Балгарскі і іншыя. У гэтым шэрагу стаіць і Маскоўскі Патрыярхат, часткай якога з'яўляецца Беларускі Экзархат, або Беларуская Праваслаўная Царква. На Сабор прыбылі больш як сто сорак епіскапаў нашай Царквы. Галоўным дзеяннем Сабора была канапізацыя навамучанікаў і спаведнікаў Царквы, сярод якіх — Царская сям'я.

Трэба сказаць аб праяўленні надзвычайнай аднадушнасці архірэяў, хоць перад Саборам выказваліся розныя меркаванні і існавала нават некаторае апасенне, што ў час абмеркавання гэтага пытання ўзнікнуць розныя погляды. Але факт застаецца пераканаўчым і натхняльным: аднагалосна была прынята да ліку святых вялікая колькасць угоднікаў Божых — больш як тысяча дзвесце пацярпелых у XX стагоддзі за веру Хрыстову, сярод якіх — 23 свяшчэннамучанікі Мінскай епархіі. Адбылася таксама кананізацыя падзвіжнікаў набожнасці больш ранніх перыядаў жыцця нашай Царквы, праца і подзвігі якіх цяпер праявіліся, і Царква палічыла неабходным прылічыць іх да ліку святых.

Сабор прыняў новую рэдакцыю Статута Рускай Праваслаўнай Царквы. Без гэтага асноватворнага дакумента жыццядзейнасць Царквы, зразумела, ускладняецца. У асноўным Статут захаваў сваю структуру і змест. Падрабязна распрацавана палажэнне аб царкоўным судзе, адсутнасць якога была недахопам ранейшай рэдакцыі Статута, калі ўвесь суд ускладаўся на епіскапа. Цяпер Статут прадпісвае мець епархіяльны суд: епархіяльны архірэй назначае старшыню царкоўнага суда на тры гады і епархіяльны сход выбірае як мінімум двух членаў епархіяльнага суда. У такім складзе Царкоўны суд займаецца разборам усіх прававых пытанняў у жыцці і практыцы епархій. Рашэнні епархіяльнага суда прапануюцца на зацвярджэнне правячага архірэя.

З гэтага часу ёсць яшчэ дзве інстанцыі царкоўнага суда: агульнацаркоўны суд з юрысдыкцыяй у межах Рускай Праваслаўнай Царквы і вышэйшы суд — суд Архірэйскага Сабора з аналагічнай юрысдыкцыяй.

Больш падрабязна Сабор спыніўся на паняцці "Самакіравальная Царква". У Маскоўскім Патрыярхаце існуюць Цэрквы, якім прадастаўлена самастойнасць. Першай трэба назваць Украінскую Праваслаўную



# ПРАДСТАЎНІК УВКБ ААН Богдан НАГАЙЛА:

# «БЕЖАНЦЫ – НЕ САМАЕ СКЛАДАНАЕ ПЫТАННЕ ДЛЯ БЕЛАРУСІ, АЛЕ...»

**— Але ж само перасячэнне мяжы краін са сталай дзяржаўнасцю праблематычнае. Менавіта гэта з прычыны геаграфічнага становішча Беларусі робіць нашу краіну, з аднаго боку, транзітнай для бежанцаў, якія імкнуцца ў Заходнюю Еўропу, а з другога — месцам, дзе асядаюць нелегальныя мігранты...**

*У Жэневе (ліпень 2000 года) прайшла канферэнцыя па праблемах бежанцаў, недобраахвотна перамешчаных асоб і тых, хто вяртаецца ў краіны СНД.*

***Там было заўважана:** неадпаведнасць паміж Захадам і дзяржавамі, якія прадуцыруюць мігрантаў, удасканаленне тэхналогій і сродкаў транспарціроўкі робяць нелегальную міграцыю адным з прыярытэтаў у парадку дня ўрадаў СНД.*

*Па неафіцыйных даных, у Беларусі больш за 150 тысяч нелегальных мігрантаў, мэта якіх — Заходняя Еўропа. Беларусь выступае як транзітная тэрыторыя.*

— Мы разумеем, што жыццё намнога больш складанае, чым можна нават уявіць. Здараецца, людзі любымі сродкамі — легальна ці нелегальна — перасякаюць мяжу. УВКБ ААН займае ў гэтай сітуацыі нейтральную пазіцыю. Чалавек часам робіць адчайныя ўчынкі, каб захаваць сваё жыццё.

**— У статуце УВКБ ААН ёсць такое паняцце, як "прычыны асабістай зручнасці". Растлумачце, калі ласка, што гэта такое.**

— Некаторыя імкнуцца атрымаць статус бежанца з-за эканамічных складанасцей на сваёй радзіме. У такім выпадку мы прызнаём за дзяржавай права, ці дазваляць такую міграцыю, ці абмяжоўваць. Калі чалавек прыбыў у Беларусь і заяўляе, што хоча атрымаць статус бежанца,ягоную просьбу трэба разглядаць. Рашэнне залежыць ад улад. У міграцыйнай службы могуць быць прычыны і каб не паверыць чалавеку, лічачы, што ў яго не было прычын для міграцыі, ён хацеў змяніць наваколле, напрыклад. УВКБ ААН пакідае за сабой права мець процілеглы пункт гледжання і тады працягваць падтрымліваць чалавека, звяртацца ад яго імя да ўладаў. Аднак усё роўна рашэнне прадастаўляць прыстанішча ці не — гэта прэрагатыва дзяржавы. УВКБ ААН можа толькі даваць нейкія рэкамендацыі і сачыць за выкананнем міжнародных норм, пагадненняў і аказваць гуманітарную дапамогу асобам, якія шукаюць прыстанішча, асабліва шматдзетным, няпоўным сем'ям.

**— Ці ў стане Беларусь справіцца з праблемай бежанцаў, нелегальных мігрантаў і як ёй у гэтым можа дапамагчы УВКБ ААН?**

— Мы разумеем, што Беларусь з-за свайго складанага эканамічнага становішча не можа аказаць значную дапамогу тым, хто шукае прыстанішча. Ваша краіна дапамагае ў тых памерах, у якіх дазваляе бюджэт. Нават існуюць спецыяльныя выплаты вышэйназванай катэгорыі грамадзян, але яны мізэрныя. Адной жа мінімальнай зарплаты, якую штомесяц атрымлівае па заканадаўству бежанец (2,2 долара ЗША), недастаткова для беларуса, які пастаянна тут жыве, не гаворачы ўжо пра чалавека, які апынуўся без усяго: уласнасці, жылля, працы. Таму ў невялікіх памерах мы падтрымліваем такіх людзей. Вядзецца таксама праца па стварэнню на Беларусі спецыяльнай структуры, якая будзе займацца бежанцамі. УВКБ ААН удзельнічала ў наладжванні сістэмы міграцыйных службаў па ўсёй Беларусі. Мы дапамагаем тэхнічным абсталяваннем, праводзім трэнінгі, навучанне супрацоўнікаў. УВКБ ААН працуе з Міністэрствам унутраных спраў, пагранвойскамі, з Белдзяржуніверсітэтам, недзяржаўнымі структурамі, што займаюцца бежанцамі.

**— Як вы ацэньваеце заканадаўчую базу Рэспублікі Беларусь у дачыненні да бежанцаў?**

— Мы лабіравалі распрацоўку "Закона Рэспублікі Беларусь аб бежанцах". Можна сказаць, што сёння ў Беларусі існуе нядрэнная заканадаўчая база ў гэтай галіне.

**— А калі гаварыць пра практычную дзейнасць, ці ёсць на Беларусі неабходныя цэнтры для людзей, якія шукаюць прыстанішча? Або яны прыстасоўваюцца, хто як можа?**

— Хутчэй апошняе. Аднак праблема не ў тым, каб уладкаваць людзей, што чакаюць атрымання статуса бежанца на Беларусі, а ў тым, каб неяк саўладаць з патокам незаконнай міграцыі з Усходу на Захад, дзе Беларусі адводзіцца роля транзітнай краіны.

На канец ліпеня ў краіне афіцыйна зарэгістравана 389 бежанцаў. У Камітэце па міграцыі знаходзіцца яшчэ некалькі соцень спраў. І нават калі ўсе, хто прэтэндуе на гэты статус, яго атрымаюць, у вас будзе каля тысячы бежанцаў. Частка з іх, верагодна, вернецца дадому. У выніку — колькасна бежанцы не ствараюць вялікай праблемы для Беларусі. Але нельга забываць, што людзі, якія чакаюць рашэння па сваёй справе, жывуць тут гадамі. Дарэчы, 75 працэнтаў з іх — гэта выхадцы з Афганістана.

*УВКБ ААН працуе са снежня 1950 года. Аказвае дапамогу 21,5 мільёна бежанцаў і прадстаўнікам іншых груп (большасць з іх — жыхары Афрыкі, Азіі, Еўропы). УВКБ ААН садзейнічае:*

** людзям падчас надзвычайных абставін, якія выклікаюць масавыя перамяшчэнні бежанцаў;*

** добраахвотнай рэпатрыяцыі на радзіму;*

** інтэграцыі ў жыццё краін, якія іх прымаюць.*

Калі разглядаецца канкрэтная справа, ацэньваецца і тое, з якой краіны прыехаўісцец. Ёсць такое паняцце — трэцяя бяспечная краіна. Калі чалавек бяжыць з краіны А ў краіну Б праз краіну В, то калі апошняя лічыцца бяспечнай для жыцця, менавіта там ён і павінен прасіць прыстанішча. Спасылаючыся на тое, што чалавек ужо быў у бяспечнай краіне, яму могуць адмовіць у статусе бежанца. Так і робяць улады Беларусі, калі афганцы, напрыклад, трапляюць на яе тэрыторыю з Расіі. Беларусь лічыць сваю ўсходнюю суседку бяспечнай краінай. УВКБ ААН з гэтым не згаджаецца. Наяўнасць і памер канфліктаў, колькасць людзей, якія шукаюць прыстанішча за межамі Расіі, сведчаць, што гэта не так. Для Беларусі часам прасцей адправіць чалавека, які прыбыў з Расіі і шукае прыстанішча, назад. Чалавек едзе ў трэцюю, чацвёртую краіну і знаходзіцца на пастаяннай арбіце між дзяржавамі.

У маі 1996 года прайшла канферэнцыя па праблемах бежанцаў і людзей, набліжаных да іх на абсягах СНД, якую арганізоўвала УВКБ ААН. Тады была распрацавана аб'ёмная праграма дзеянняў.

У ліпені бягучага года адбылася рабочая сустрэча, на якой разглядаліся вынікі працы. У ёй прынялі ўдзел супрацоўнікі Міністэрства ўнутраных спраў, міграцыйнай службы, пагранвойскаў Беларусі. Самая вялікая праблема для Беларусі — нелегальная ці нерэгулярная міграцыя. Мы прытрымліваемся думкі, што правы ўсіх людзей, нерэгулярных мігрантаў у тым ліку, павінны быць абаронены.

**— Пасля распаду СССР у нас узнікла праблема вяртання этнічных беларусаў на радзіму. Якая тут пазіцыя УВКБ ААН?**

— Калі гаварыць коратка, гэтая праблема не ў кампетэнцыі УВКБ ААН. Беларускія ўлады не звярталіся да нас з просьбай разгледзець гэтае пытанне. Думаю, яны ведаюць аб'ём нашай работы. Напрыклад, мы не займаемся і экалагічнымі мігрантамі, вымушанымі перасяленцамі.

**— Адно з самых вострых пытанняў — фінансаванне праграм, якія падтрымліваюць бежанцаў. Як вядома, ААН фінансуе толькі адміністрацыйныя расходы УВКБ. Усё астатняе залежыць ад добраахвотных ахвяраванняў? Хто іх робіць?**

— Так, праблема сродкаў УВКБ ААН пастаянна стаіць востра. Асноўны цяжар ляжыць на так званых краінах-донарах — развітых дзяржавах Заходняй Еўропы і Амерыкі. Іх узносы ва УВКБ часам дасягаюць 100—200 мільёнаў долараў ЗША. Зразумела, што краіны СНД не могуць дазволіць сабе такіх укладанняў. Але Беларусь на сваёй тэрыторыі ажыццяўляе падтрымку бежанцаў. Гэта і ёсць уклад Беларусі ў рамках яе магчымасцей. Наступная задача, на мой погляд, — данесці да сусветнай грамадскасці памеры і характар нелегальнай міграцыі ў вашай краіне. Неабходна інфармаваць пра працу, якая праводзіцца ў гэтым накірунку. У дзяржавах вакол Беларусі павінен складвацца гуманны вобраз вашай краіны. Неабходны рэальныя вынікі працы як дзяржаўных, так і недзяржаўных структур у галіне абароны правоў бежанцаў і асоб, што апынуліся ў падобных да іх умовах. Пастаянныя донары УВКБ ААН, сродкі якіх ідуць на Беларусь, зацікаўлены, каб тут адбываліся пазітыўныя палітычныя працэсы, ажыццяўлялася сапраўдная абарона правоў чалавека.

*На Беларусі, па даных УВКБ ААН, жыве 389 чалавек, якія атрымалі статус бежанцаў. 297 — выхадцы з Афганістана, 35 — з Грузіі, 14 — з Азербайджана, 17 — з Таджыкістана, 18 — з Эфіопіі, 4 — з Ірана і па аднаму з Індыі, Ірака, Ліберыі, Руанды. (Лічбы дадзены на канец ліпеня 2000 года).*

Гутарку вяла
**Алена СПАСЮК.**

# РАЗДЗЯЛЕННЕ Ў ГРАМАДСТВЕ, ПАМІЖ ЦЭРКВАМІ — ГЭТА ГРЭХ...»

Царкву: Сабор пацвердзіў яе шырокую аўтаномію і выказаў надзею, што гэта будзе садзейнічаць пераадоленню царкоўнага расколу на Украіне. Правам самастойнага кіравання валодае таксама Праваслаўная Царква ў Латвіі, Эстоніі і Малдове.

Ранейшым застаецца паняцце "Экзархат". На сённяшні дзень Беларускі Экзархат — адзіны ў Маскоўскім Патрыярхаце — і гэта таксама разнавіднасць самакіравальнасці Царквы. Тут асаблівых змяненняў не адбылося. Беларускі Экзархат мае свой Статут, які застаецца ў сіле.

Больш падрабязна ў новай рэдакцыі Статута сказана аб прыходах, але пашырэнне адпаведных артыкулаў нязначнае. У большай ступені акцэнтуецца ўвага на брацтвах і сястрыцтвах, якія ствараюцца пры прыходах і дзейнічаюць па благаславенню епархіяльнага архірэя і яму падсправаздачныя.

Архірэйскі Сабор прыняў шэраг новых сур'ёзных дакументаў. Упершыню ў нашай Царкве і сярод іншых Памесных Праваслаўных Цэркваў з'явіўся дакумент аб асновах царкоўнай сацыяльнай дзейнасці. "Вера без спраў мёртвая", — так вучыць Свяшчэннае Пісанне (Іак. 20, 26). Як ажыццяўляць гэтыя справы? У якіх галінах жыцця грамадства Царква павінна прымаць удзел? Гэта і рэгламентуе шырокі, сур'ёзны, заснаваны на Свяшчэнным Пісанні і Свяшчэнным Паданні дакумент "Асновы сацыяльнай канцэпцыі Рускай Праваслаўнай Царквы". Вось толькі назвы раздзелаў, якія ён змяшчае: "Асноўныя багаслоўскія палажэнні"; "Царква і нацыя" — у Царкве няма адрознення нацый, усе народы, усе мовы благаслаўленныя і прызначаны да выратавання; "Царква і дзяржава", "Хрысціянская этыка і свецкае права", "Царква і палітыка", "Уласнасць", "Злачыннасць, пакаранне і выпраўленне", "Пытанні асабістай, сямейнай і грамадскай маралі", "Здароўе асобы і народа", "Царква і праблемы экалогіі", "Праблемы біяэтыкі", "Свецкія навукі, культура і адукацыя", "Царква і свецкія сродкі масавай інфармацыі", "Міжнародныя адносіны", "Праблема глабалізацыі і секулярызму". Гэтыя палажэнні вельмі сучасна гучаць, і ўпершыню архірэі, клір і свецкія людзі атрымліваюць кіраўніцкія палажэнні аб тым, як ім будаваць свае адносіны з сучасным грамадствам.

Наступны важны дакумент — "Асноўныя прынцыпы адносін Рускай Праваслаўнай Царквы да іншаслаўя". Яго змест такі: "Адзінства Царквы і грэх чалавечых раздзяленняў". Царква адзіная, і гэта яе характэрная, анталагічная ўласцівасць. Таму ўсякае раздзяленне ў грамадстве, а асабліва ў Царкве або паміж Цэрквамі — гэта грэх, парушэнне запаведзей Божых, парушэнне Божага наказу аб імкненні адзінства па вобразу Трыадзінага Бога.

Дакумент гаворыць аб імкненні да аднаўлення богазапаведванага адзінства хрысціян як мэты ўзаемаадносін Праваслаўнай Царквы з іншаслаўем. Гэтыя імкненні жывуць, яны натуральныя, і Царква вельмі ўважліва ставіцца да розных мадэлей яднання, якія прапануюцца рознымі хрысціянскімі дэнамінацыямі і нават некаторымі дзяржаўнымі людзьмі. Так, напрыклад, на Украіне прапанавана ўсім праваслаўным напрамкам сесці за адзін стол і аб'яднацца пры садзейнічанні дзяржавы. Гэта прыклад няправільнага разумення праблемы. Царква толькі сама можа дасягнуць адзінства сваіх членаў; хрысціяне толькі самі, па сваёй добрай волі, згодна з Вучэннем Хрыстовым, павінны прыйсці да адзінства. Таму ў дакуменце разглядаюцца і такія тэндэнцыі і імкненні ў хрысціянскім грамадстве, якія Царква не прымае. Яна іх разумее, але не можа прыняць і пакласці ў аснову свайго прынцыпу яднання. Гэтым дакументам мы заклікаем сведчыць аб Праваслаўі.



На працягу двух апошніх стагоддзяў Руская Царква актыўна ўдзельнічала ў хрысціянскім пошуку шляху да адзінства; гэты вопыт мы прымяняем і сёння і абвяшчаем, што адзінства хрысціян у Царкве можа быць дасягнута, — але толькі на аснове правільнага дагматычнага веравучэння.

Пачынаючы ад сваіх першых пасяджэнняў, Архірэйскі Сабор маліўся аб выратаванні братоў нашых, якія трапілі ў бяду ў Баранцавым моры. Цяпер нам ужо вядома, што ўсе яны загінулі... У час правядзення выратавальнай аперацыі Сабор таксама паслаў тэлеграму, якая натхняла тых, хто працаваў па выратаванню людзей, і духоўна падтрымлівала сваякоў. Зараз вельмі цяжка чалавечай мовай апісаць і выказаць звязаныя з гэтай трагедыяй думкі і пачуцці. Што рабіць? Адно нам застаецца: маліць Бога, каб Гасподзь прыняў іх душы ў Свае прыстанкі. Не толькі жыццё, але і смерць павучальная, як гэта асабліва ярка праяўляецца на прыкладах подзвігаў мучанікаў і спаведнікаў. Апошнія мінуты жыцця вызначаюць лёс чалавека: дзе была яго думка? З Богам? Так ён з Богам і застанецца. І мы верым, што ў тыя імгненні, якія аддзялялі жыццё ад смерці, маракі сваёй думкай звярнуліся да Бога. Таму ў нас цяпер "адзінае на патрэбу", як кажа Святое Евангелле: малітва аб супакаенні душ іх у сялібах праведных і малітва Царквы аб усіх сваяках, якія перажываюць невыказнае гора. Важна толькі, каб яны не адчаяліся, але ўспрынялі гэта выпрабаванне як волю Божую.

Мы можам рабіць розныя здагадкі аб тым, што здарылася, выніць і асуджаць усіх і ўся, але ў выніку мы ўсё роўна прыйдзем да малітвы Бога, якую Ён пакінуў нам і прасіў, каб мы маліліся так: "Ды будзе воля Твая на зямлі, як на небе" (Мф. 6:10). Царства Нябеснае і вечны спачын загінуўшым. Царква будзе пастаянна маліцца аб іх. Царква па сваёй традыцыі памінае імёны, якія дадзены людзям у Святым Хрышчэнні і якія ўзносяцца на малітвах. Мы выказваем спачуванне ўсяму нашаму народу: загінуўшыя — сыны Айчыны, а Айчынная Царква моліцца аб іх і суперажывае ўсім.

**БелТА.**

SOS-ВЁСКА Ў БАРАЎЛЯНАХ







Пяць гадоў споўнілася SOS-вёсцы ў Бараўлянах, што пад Мінскам, дзе для пазбаўленых бацькоўскай ласкі дзяцей створаны ўмовы, блізкія да сямейных. У вёсцы пражывае 13 сямей, у якіх выхоўваецца 92 дзіцяці. Большасць з іх — сацыяльныя сіроты, астатнія не маюць бацькоў.

НА ЗДЫМКАХ: SOS-вёска ў Бараўлянах; з мамай Святланай АСТАНКІНАЙ; Маша БАДЗЯНКОВА і Дзіма ГРЫНЁЎ на музычных занятках.

БелТА.

АСОБА

# БЕЛАРУСКІ АЙБАЛІТ

**Хто з нас у дзяцінстве не зачытваўся "Айбалітам", цудоўнай казкаю Карнея Чукоўскага? "И бегут к нему лечиться и корова, и волчица". Радкі гэтыя згадаліся, калі пазнаёмілася з галоўным ветэрынарам горада Мінска Пятром АРЭХАВЫМ.**

**У прыёмнай гарадской ветлячэбніцы было цесна — шмат наведвальнікаў з братамі нашымі меншымі на руках. Як і належыць хворым, пішчаць, скуголяць — адным словам, жаляцца. Каля дзвярэй з заплаканымі вачамі гаспадыня кошкі Розы, якую зараз аперыруе Пётр Васільевіч. У яе грыжа. Зусім не дробязь, калі ўлічваць, што з кошкаю пражылі разам столькі гадоў. У Айбаліта, да якога едуць не толькі са ўсёй Беларусі, але і з Расіі, Чэхіі, з Польшчы, Францыі, хто шмат чуў пра яго ўменне і талент, зусім няма часу на размову з журналістам. І я прашуся ў аперацыйную, пакуль кошка засне пад анестэзіяй.**

— Канешне, наша аперацыйная — не бальніца "хуткай дапамогі", — гаворыць Пётр Васільевіч. — Вам не трэба спецыяльна мыцца. Але халат усё ж накіньце. Жывёл лечым звычайных. Праўда, бываюць і экзатычныя экземпляры — папугаі, малпачкі, удавы... Здараецца абслугоўваць і праезджыя заапаркі, і заацыркі — лячыць тыграў, мядзведзяў, ваўкоў. З імі працуеш, як фокуснік, і заўсёды гатовы да любых нечаканасцей. Але стараюся знайсці з імі агульную мову.

— Не маглі б вы згадаць цікавыя выпадкі?

— Неяк у тыгра кіпцюр урос у падэшву. Няўжо ўсыпляць яго, каб зрабіць аперацыю? Снатворнага шмат трэба. Некалькі дзён хадзіў каля яго клеткі і пагладжваў яго праз пруты. Прыручыў да сябе. А пасля ўзяў шчыпцы і адразу захапіў імі хворы кіпцюр. Тыгр драмаў пасля сытнага абеду на сонейку, не чакаў болі. Зароў, канешне, ашчэрыў зубы, але было ўжо позна на мяне сварыцца.

Бывае, жывёлы разумеюць, што ім хочам дапамагчы, але часцей гатовы пускаць у ход зубы і кіпцюры. — Пётр Васільевіч закасаў рукаў халата і паказаў мноства шрамаў — старых рубцоў і свежых. — "Собака бывает кусачей только от жизни собачей". Так, здаецца, спяваецца ў песні? У добрага гаспадара і сабака добры. Аднойчы прыйшоў да мяне чалавек — крычыць, сварыцца: "Усыпіце майго сабаку! Ён — шалёны. Кідаецца на людзей. Нават мяне ледзь не скусаў". Зазірнуў я ў вочы аўчаркі, а яны добрыя. Але сам сабака замучаны, нервовы. Аказваецца, дом, куды ён нядаўна з гаспадаром пераехаў жыць, стаіць каля чыгункі. Грукат цягнікоў стаў для яго пастаянным стрэсам. Поўнае вычарпанне нервовай сістэмы. Патлумачыў я гаспадару, у чым справа, а ён не верыць. Патрабуе ўсыпіць гэтага шалёнага сабаку, і ўсё тут.

— Пакідайце, — сказаў я. А сам тыдзень патрымаў сабаку ў лячэбніцы, адпаіў заспакаяльнымі і забраў да сябе дадому. Ён і зараз з намі жыве, вельмі добры і разумны сабака. Яму з намі, а нам з ім надзвычай добра.

Неяк папрасілі мяне сябры дапамагчы старым, адзінокім людзям у Ждановічах. Ні сваякоў, ні дзяцей у іх, адзін сабака. І той папаў пад машыну. Пераехалі яму пярэднія лапы. Убачыўшы тыя пераломы, зразумеў, што не вылечу. А старыя ў слёзы: "Доктар міленькі, хай ён хоць на пратэзах ходзіць, толькі з намі жыве. Мы ж памром без нашай Альфы ад тугі". Такая справа, бачу, што трэба старых ад гэтага гора выратоўваць. Змайстраваў спецыяльны бандаж, падвескі, нешта накшталт сабачых мыліц атрымалася. Жыве Альфа і па гэты дзень, бегае. Калі сумленна казаць, гэты сабака мяне здзівіў.

— І часта даводзіцца здзіўляцца?

— Выклікалі мяне на бульвар Шаўчэнкі. Балонка вельмі любіла гаспадара. Разам былі на кухні. Гаспадар выйшаў, а дзверы зачыніў. Балонка кінулася грудзьмі на шкло, каб пайсці за ім. І ўся парэзалася. Кроў лілася ручаём. Паўтары гадзіны я накладваў швы ў тры паверхі. Адыходзіў у смутку, думаючы, што бедная жывёла ад сваёй ахвярнай любові можа загінуць. Пяцьдзесят вялізных ран — гэта вам не жарт! Праз два тыдні прыводзяць да мяне сабаку з галавы да хваста ў зялёнцы.

— Хто гэта так яго перапэцкаў? — пытаю.

— Дык гэта ж вы, доктар, зялёнымі ніткамі зашывалі, — усміхаецца гаспадар.

— Аглядзеў я небараку. Швы, як распрасаваныя. Зажыло, сапраўды, як на сабаку. Сёлета вясною прынеслі на насілках вялікага дога — чатыры мужыкі ледзь дацягнулі. Пераломы, скура на лапах знята. Праз месяц ён прыйшоў да мяне сам і ў зубах прынёс свой фотаздымак у падарунак. За сорак з нечым гадоў працы хіба ўсе выпадкі, калі даводзілася здзіўляцца, прыгадаеш! Праца ветэрынара багатым не зробіць, затое ўражанняў дае на ўсё жыццё.

Пётр Васільевіч прыступіў да аперацыі. Кошка Роза пазбавілася ад таго, што яе непакоіла. Доктар працаваў хутка, спрытна, і пра аперацыю на жываце нагадвала толькі маленькае акуратнае шво.

— Яна ж дама, — жартуе Пётр Васільевіч. — Прыйшлося пастарацца, каб які-небудзь Катафеевіч да яе яшчэ заляцаўся.

Пачаўся прыём. У эрдэльтэр'ера Агата цяжкая форма энтэрыту, пачалося абязводжанне, а гэта ўжо небяспечна. Пётр Васільевіч доўга аглядаў сабаку, зрабіў укол — якраз на гэты выпадак у яго ёсць цудадзейная сываратка асабістага вырабу.

— Не хвалюйцеся, Агат не загіне. Прыязджайце заўтра да мяне на ўкол. Давайце яму лекі, якія я зараз выпішу. Калі спатрэбіцца, не саромейцеся, тэлефануйце да мяне дадому ў любы час.

Паўдня да Айбаліта ішлі сабакі і кошкі, прылятаў папугай, у якога, як і ў нас з вамі, павялічылася шчытападобная залоза. Хваробы братоў меншых былі так падобныя на людскія. Тая ж маска пакут. Пётр Васільевіч беспамылкова ставіў дыягназы, хаця яго пацыенты не маглі расказаць, што ў іх баліць.

— Мозг у ветэрынара, — патлумачыў ён, — працуе, як камп'ютэр. Інтуіцыя павінна быць абвостранай. Увага да ўсяго: шэрсткі, позірку, носа, настрою. Яшчэ ў рукі не ўзяў, а ўжо зразумееш павінен, ад чаго пакутуе чатырохногі пацыент.

Пётр Васільевіч чытае часопісы па ветэрынарыі на англійскай мове. Валодае ёю ня дрэнна. Доўгія гады ён працаваў загадчыкам ветлячэбніцы Цэнтральнага раёна горада Мінска, пакуль нядаўна не атрымаў новае назначэнне. Папулярнасць галоўнага ветэрынара беларускай сталіцы павялічылася яшчэ больш пасля таго, як прыняў удзел у праграме "Сёння з вамі..." Беларускага тэлебачання.

А запрасілі Пятра Васільевіча на тэлебачанне не выпадкова: Арэхавы — сям'я вядомая. У ёй ветэрынары ўсе. Жонка Марыя Міхайлаўна — кандыдат ветэрынарных навук. Раней яны разам працавалі ў БелНДІ эксперыментальнай ветэрынарыі. У ветлячэбніцы ў бацькі працавала дачка — Алена Сачэўка. Ветэрынарам быў дзядзька.

Родам Пётр Васільевіч з Віцебшчыны. Бацька працаваў у калгасе, трымаў коней. Пеця іх даглядаў. Гэта і адыграла сваю ролю пры выбары прафесіі. Чатырохногія пацыенты, выратаваныя ім, бегаюць па вуліцах Лондана і Нью-Йорка, Парыжа і Прагі. Менавіта пра такіх, як Арэхаў, і пісаў сваю казку "Айбаліт" Карней Чукоўскі.

Таццяна ХРАПІНА.

АНОНС

## НОВАЯ МАСТАЦКАЯ ГАЛЕРЭЯ

У Мінску, па вуліцы Сурганава, 16, адкрылася новая мастацкая галерэя. Выстаўляцца ў ёй будуць работы мастакоў-авангардыстаў. Арганізатары галерэі лічаць, што менавіта гэты напрамак у жывапісе, скульптуры, кераміцы мае патрэбу сёння ў падтрымцы і папулярызацыі. Зараз тут праходзіць выстава маладога скульптара Юрася Анушкі. Яго работы абстрактныя, асацыятыўныя, адным словам, далёкія ад класічнай, рэалістычнай скульптуры. Магчыма, у хуткім часе яны ўпрыгожаць паркі і скверы сталіцы.

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

## ДЖУЛЯ ВЫРАТАВАЛА ГАСПАДАРОЎ

Зараз яны не спускаюць яе з рук. І ёсць прычына. Калі ўся сям'я Андрэя Куксы з Драгічына — ён, яго жонка Святлана Уладзіміраўна і сын Андрэй — моцна спала (была пятая гадзіна раніцы), іх сабачка Джуля адчула, што ў кватэры пачынаецца пажар, і настойліва будзіла гаспадароў. Выкліканыя ў час пажарныя хутка справіліся з агнём, прычынай якога была пашкоджаная праводка, і прадухілілі трагедыю.



Фота Рамана КАБЯКА.



**ПРЭЗЕНТАЦЫЯ**

**Духоўнае апірышча, якім ва ўсе часы ратаваўся чалавек, сёння таксама запатрабавана душой, неабыякавай да розных праяў жыцця. Які шлях наканаваны табе на гэтай зямлі, ці здольны ты перамагчы дасланыя выпрабаванні — усё ў многім падпарадкавана тваёй духоўнай сутнасці. Мне падаецца, што кожны чытач міжволі адчувае сябе як перад уваходам у храм пры чытанні кніг пра падзвіжнікаў сярэднявечча і сучаснасці. Менавіта пра гэта — новая дылогія Алены ЯСКЕВІЧ "Абранне Вечнасці" і "Спрадвечная Ахоўніца Беларусі".**

# «...ДУША МАЯ — ТЫ Ў САДЗЕ РУЖ»

*— Алена, віншую вас з выхадам такой цікавай дылогіі, якая можа быць добрым падарункам нашым чытачам. Як вы прыйшлі да атаясамлівання творчасці пісьменніка з Храмам Душы?*

— Усё жыццё сярэдневяковага хрысціянскага грамадства нагадвала агромністы велічны храм, існаванне чалавечае было непасрэдна звязана з рэлігіяй, духоўнасцю і вытлумачвалася ёю. Таямніца сярэднявечча, чым яно вабіць нас, і ў тым, што дух чалавечы імкнуўся да нябесных вяршынь, няхай і не заўсёды ўдала. Мэтай яго было не толькі ўзвысіць сваю істоту праз пакаянне, ачышчэнне-аскезу да сапраўднага ідэала высакароднага жыцця, але і наблізіць да Выратавання свой род, увесь народ. Усё жыццё нашых продкаў было пранізана малітваю, увесь побыт быў асвячоны промнямі духоўнасці. Безумоўна, не ўсе нашыя продкі былі манахамі і святымі ўгоднікамі, але, як адзначае архімандрыт Кіпрыян (Керн), "сама царква называецца святою не з-за святасці людзей, якія ўваходзяць у яе, а таму што яна крыніца святасці для кожнага, хто прагне ачышчэння і выратавання. Царква, манаскі і святарскі чын — не сабор святых, а толькі людзі, якія шукаюць свайго збавення і ачышчэння, набліжаюцца да гэтага па ступені сваіх магчымасцей. І царква, як дабрадатнае жыллё духа, можа ў большай ці меншай ступені ахопліваць асобных людзей, іх справы, адносіны, творчасць, побыт, сям'ю, культуру і г. д. І таму паўната царквы выяўляецца ў глыбінным пранікненні ва ўсе грані жыцця чалавека". Адсюль і такі высокі маральны ўзровень не толькі далёкіх продкаў з часоў сярэднявечча, але і нашых дзедаў і прадзедаў, бо для іх былі непрымальнымі, немагчымымі тыя анталагічныя духоўныя кампрамісы, на якія мы так лёгка ідзём у наш час.

Служэнне Госпаду, Бацькаўшчыне, бліжнім нашых добрапамысных продкаў знайшло ўвасабленне ў падзвіжніцтве. Сярод асветнікаў-руплівцаў айчыннай духоўнасці, славутых кніжнікаў асабліва вылучаюцца постаці славутых старабеларускіх пісьменнікаў, перакладчыкаў Св. Пісання, заснавальнікаў шырокавядомых навукова-асветніцкіх гурткоў і духоўных акадэмій Канстанціна Астрожскага, Сергія Кімбара, Елісея Плецянецкага і Лазара Барановіча.

Падзвіжніцкае служэнне нацыянальнай кніжнасці прападобнай Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага і інш. знайшло плённы працяг у творчай спадчыне Ф. Скарыны, І. Фёдарава, Л. Зізанія...

*— Алена, традыцыя беларускага прыгожага пісьменства досыць шматгранная. Скажам, пачатак XX стагоддзя ў многіх асацыіруецца з імёнамі Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча. Ваша даследаванне ў дылогіі стану сучаснай беларускай літаратуры відавочна прасочвае лінію звароту да яшчэ пушкінска-міцкевічаўскай традыцыі XIX стагоддзя. Адкуль такое бачанне, чым кіраваліся, супастаўляючы менавіта гэтыя вытокі айчыннай кніжнасці?*

— Безумоўна, беларускае прыгожае пісьменства нельга вытлумачыць толькі такімі ключавымі постацямі, як Купала і Колас. Кожны з патрыярхаў нацыянальнай кніжнасці XIX стагоддзя, Новага часу — той жа Ян Чачот, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, а калі сягаць далей — і Францішак Скарына, Канстанцін Астрожскі, Іаан Вішанскі і шэраг іншых уяўлялі сабой пэўную лінію прыгожага пісьменства. Але для вытлумачэння нашых тысячагадовых традыцый увага была звернута на постаці, якія сімвалізавалі арыентацыю нашага этнасу ў Новы час (XIX стагоддзе), калі Аляксандр Пушкін — то гэта ўсходнеславянская візантыйская грэчаская арыентацыя, выключна праваслаўная, а калі Міцкевіч — гэта традыцыя заходнееўрапейская. Тыя ж Купала і Колас таксама фактычна ў нечым з'яўляюцца паслядоўнікамі гэтай традыцыі: Купала —наследнік традыцыі Міцкевіча, а сам Якуб Колас прызнаваўся, што ён шмат у чым вучыўся ў А. Пушкіна. І можа ў наш вельмі няпросты час нацыянальнага адраджэння, мы якраз больш задумваемся над феноменам беларускага ўплыву ў кантэксце яго "залатога веку", у кантэксце таго, як іншыя народы, усведамляючы гэта, з гонарам запазычвалі традыцыі нашай кніжнасці, а ў той час сыны нашага этнасу ішлі на службу іншым народам ці ў Заходнюю Еўропу, ці на Усход. Менавіта яно і дапамагло ў нечым наблізіцца праз зварот да XIX стагоддзя, зразумець феномен пісьменніка, можа быць, хаця б параўнаўшы сучасных пісьменнікаў, калі не з падзвіжнікамі старабеларускай кніжнасці, не з святымі, добрапамыснымі людзьмі, то хаця б з постацямі Міцкевіча і Пушкіна: у іх разуменні служэння пісьменніка свайму этнасу.

Заканчэнне на 8-й стар.

**ЗАХАВАЙ ТРАДЫЦЫЮ**

# ПАШЛІ, БОЖА, МНОГА ЗБОЖЖА



Пра тое, што жніво было галоўнай і адказнай падзеяй у жыцці беларуса-хлебароба, сведчыць сама назва месяца, у якім прыступалі да ўборкі жыта, — жнівень.

Жніво падзялялася на тры часткі: агледзіны і пакрыванне поля, зажынкі і дажынкі.

На агледзіны нівы выходзіў сам гаспадар. Ён абыходзіў вакол поля, зрываў у розных месцах па каласку, спрабаваў на смак і цвёрдасць зярняты і ўважліва прыглядаўся, ці не зрабіла дзе ведзьма заломы.

Абрад пакрывання поля быў больш пашыраны ў Віцебскай і Мінскай абласцях. Заключаўся ён у тым, што раніцай, яшчэ да ўсходу сонца, на поле выпраўлялася маладзейшая з нявестак, якая брала з сабой залвіц — мужавых сясцёр. Яна нажынала толькі адзін снапок жыта, які "абмотвала" адрэзам новага палатна або ручніком, і падкідвала ўгару, прыгаворваючы:

*Пакрыла ніўку*
*На добрую спажыўку.*
*Парадзі, Божа,*
*Наша збожжа!*

Абрад зажынак, які добра вядомы і ў наш час, пачынаўся найчасцей у суботу ці нядзелю. Паснедаўшы, гаспадар ішоў у гумно і рыхтаваў месца "пад новае жыта" (цікава, што ў беларусаў у гумне, як і ў хаце, вісеў у куце абраз якога-небудзь святога). Жанчыны тым часам прыбіралі ў хаце і рыхтавалі рытуальны абед. Пасля абеду галоўная жняя апраналася ў святочнае адзенне, брала з сабою кавалак каравая са стала, соль, сыр, грамнічную свечку і ішла зажынаць жыта. Пры гэтым прыгаворвала: "Памажы, Божа! Стань, мой сноп, на тысячу коп!"

З раніцы наступнага дня пачыналася руплівая праца. І так да апошняга дня жніва — дажынак.

На заканчэнне жніва ў многіх вёсках збіралі талаку. Для апошняга загону пакідалі звычайна кавалак найлепшага жыта. Дзесятак-другі каласоў не зжыналі, а прытоптвалі да зямлі, знізу клалі маленькі кавалак хлеба. На думку жней, падобныя дзеянні павінны былі ўтрымаць мышэй ад пераходу з поля ў гумно. Пасля з нажатага жыта жнеі рабілі вянок, і вясёлая талака кацілася дадому, дзе іх ужо чакаў святочны стол.

Падрыхтавала **Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

НА ЗДЫМКАХ: шмат гадоў аддала калгасу, а цяпер працуе на прысядзібным участку адзінокая пенсіянерка Яніна СЁМУХА з вёскі Данілавічы Дзятлаўскага раёна. Сабраны ёю традыцыйным спосабам ураджай складзены ў акуратныя снапы.

**Фота Наталлі АБЛАЖЭЙ.**



**ДЭБЮТ**

***Яна СЦЕФАНОВІЧ жыве ў Мінску, закончыла Мінскі інстытут культуры. Працуе бібліятэкарам у абласной бібліятэцы імя Пушкіна. Выхоўвае пяцігадовага сына Максіма. Тэмы для вершаў ёй падказвае само жыццё.***



### ГРАМАДА

**Грамада! Грамада! Грамада!**
**Я у ёй, як маленькая птушка.**
**І сакрэт, што заўсёды адна,**
**Не адкрые сяброўка-падушка.**
**Думкі кепскія. Дрэнны настрой.**
**Адзінота у сэрцы такая...**
**Пабратаюся з роднай зямлёй.**
**А пакуль што яшчэ маладая.**
**Мая стомленасць гэтым жыццём**
**У душы памнажае турботу.**
**І абвостраным я пачуццём**
**Ў грамадзе адчуваю самоту.**
**На сябе спадзяюся ва ўсім.**
**Не змяняю я курс стратэгічны.**
**А на Бога надзея у тым,**
**Што ўратуе у момант крытычны.**
**Безупынна жыццё ў барацьбе,**
**У людской абыякавай плыні.**
**Я чамусьці сама па сабе:**
**Адзінокага крык у пустыні.**

### РОДНЫ ПРЫСТАНАК

**Якія белыя аблокі!**
**Яны адчуць дапамаглі —**
**Маёй ўлюбёнасці вытокі**
**У тым, што я — дачка зямлі.**

**Сябры, тут нельга памыліцца:**
**Айчына сілы нам дае.**
**Натхнення чыстая крыніца —**
**Мясціны родныя мае.**

**І нават ў цяжкія хвіліны**
**Душа шукае веру там,**
**Дзе мілы край, мая Айчына**
**Аддана родным караням.**

**Нясіце, чыстыя аблокі,**
**Маё вітанне, каб былі**
**Любоў і згода ў дапамогу,**
**Ў паўночны край маёй зямлі.**

**Я усміхаюся пяшчотна.**
**У вокнах свецяцца агні.**
**Ах, Беларусь — прыстанак родны!**
**Душа як птушка ў вышыні...**

### РАМОНКІ

**Рамонкі, белыя рамонкі!**
**Я ўспамінаю праз гады**
**І палявых званочкаў звонкі**
**Вясёлы голас малады.**

**Як не пачуць мне тыя гукі,**
**Калі радзімая зямля**
**Дарує радасці і мукі,**
**Нібы свае дары ралля.**

**Пяшчотны позірк задуменны**
**І дабратворны мой настрой**
**Накіраваны на адметны**
**Абрыс той кветкі палявой.**

**Мой успамін пялёсткаў белых,**
**Як варажыла на свой лёс,**
**Маліла доўга і нясмела**
**Шчаслівай долі у нябёс.**

**Пялёсткі ціха адрывала,**
**А нехта здзейсніваў сяўбу.**
**Усюды лета панавала,**
**Пакуль вяла я варажбу.**

**Палі рамонкавыя — гэта**
**Радзімы-матухны нам дар.**
**І тое сонечнае лета —**
**Маёй свядомасці ўладар.**

## ПАКАЛЕННЕ-2000



● Валерый ХАРЧАНКА.

У якасці дыпломнага праекта студэнтка кафедры мастацкага праектавання выстаў і рэкламы Беларускай акадэміі мастацтваў Алена Галкіна прадставіла серыю з дзевяці культуралагічных плакатаў "Не многа, але многае" (выраз рымскага пісьменніка Плінія Малодшага).

— У сваім праекце я вырашыла задачу ўзаемадзеяння вербальна-графічнага і візуальна-графічнага радоў, — гаворыць Алена. — Вербальна-графічны рад якраз і будуецца на лацінскіх афарызмах, выслоўях старадаўніх мысліцеляў, якія прайшлі праз стагоддзі, як свята сапраўднай мудрасці, і сугучныя нашаму часу.

Алена ўдзельнічала са сваімі работамі ў многіх выставах яшчэ будучы студэнткаю мастацкага факультэта Віцебскага тэхналагічнага універсітэта. І не дзіўна, што пасля вучобы ў акадэміі яна мае некалькі прапаноў для працягу творчай працы ўжо на прафесійнай аснове.

НА ЗДЫМКУ: Алена ГАЛКІНА са сваімі работамі.

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

### УКРАІНА

Дарагая рэдакцыя! Дзякуй, што не забываеце нас, беларусаў, якія не па сваёй волі апынуліся за мяжою. Для мяне было прыемна ў № 21 убачыць у раздзеле "Зваротная сувязь" свае прапановы газеце.

Прашу таксама перадаць ад беларусаў Львова віншаванне выдатнаму беларускаму кампазітару Эдуарду Ханку з яго 60-годдзем (пра юбілей мы даведаліся з вашай газеты). Э. Ханок — цудоўны кампазітар, пра яго ў нашай абшчыне ўсе ведаюць, яго музыка гучыць на нашых вечарынках і ў нашых хатах. Мы яму жадаем яшчэ доўга радаваць свой народ і ўсіх аматараў музыкі новымі творамі. Гаворачы пра Э. Ханка, мы не забываем і яго сааўтара, выдатнага паэта Н. Гілевіча. Мы ўдзячныя Ніну Сымонавічу за яго сапраўды народныя творы, у тым ліку і за "Вы шуміце, бярозы".

Мы заўсёды памятаем пра вас, дарагія землякі.

З павагаю

**Валянцін СТРЫБУК, сябра беларускай абшчыны ў Львове.**

### РАСІЯ

Заснаванне першай беларускай газеты "Наша Ніва" на пачатку нашага стагоддзя абудзіла да жыцця кагорту беларускіх дзеячаў: пісьменнікаў, мастакоў, акцёраў. Іх імёны залатымі літарамі ўпісаны ў нашу гісторыю. Усе яны — наша класіка... Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Змітрок Бядуля, Канстанцыя Буйло, Карусь Каганец, Алесь Гарун, Ядвігін Ш., Вацлаў Ластоўскі, Зміцер Жылуновіч і шмат-шмат іншых. Імёны гэтыя як літаратараў нам добра вядомыя. А хочацца яшчэ іх бачыць і адчуваць як жывых людзей, у жывой праяве між сабою. Вось чаму для нас каштоўныя звесткі пра іх, іхніх блізкіх і родных. Шмат гадоў з гэтай нагоды я лістуюся з унучкамі Ядвігіна Ш., дзецьмі Ванды Лявіцкай і Язэпа Лёсіка. Яны таксама, пазбаўленыя сваёй радзімы, як могуць трымаюць повязь з Беларуссю. Такім сувязным для іх з'яўляецца і "Голас Радзімы". Вось што, прыкладам, не гэтак даўно напісала ўнучка Ядвігіна Ш. Алеся Лёсік з Стаўрапольскага краю пра сябе і беларускую газету для суайчыннікаў за мяжою:

*"Уладзімір Ільіч, добры дзень! Я даўно атрымала Ваша пісьмо, а адказаць не сабралася з-за хваробы. Хвароба мая ад старасці і перажытага за гады.*

*Калі б знайшла такія словы, каб выказаць Вам удзячнасць за пісьмы і ўсё, што пішаце мне пра маіх дарагіх Лёсікаў і Лявіцкіх, даўно напісала б. Я так многа даведалася пра дзеда. У хаце (мама і тата) нічога нам не гаварылі, таму што многага не ведалі самі, а можа ў той час і ведаць не трэба было. Я заўсёды ўважліва чытаю газету "Голас Радзімы" і вашы артыкулы. Як была б рада мама, што не забытая яе праца для Радзімы, яе бацькі, майго дзеда. Пережыта вельмі шмат, цяжка чытаць цяпер тое, пра што ні мама, ні тата, ні Казік, ні Вацік, ні бабулька не даведаюцца, не прачытаюць.*

*Газету "Голас Радзімы" мне дасылаюць, я шмат разоў хацела написаць у рэдакцыю пісьмо з удзячнасцю, але сорамна, што не магу напісаць на беларускай мове, а па-руску неяк няёмка пісаць дачцэ Лёсіка, але... віны маёй у гэтым няма. Тата добра засвоіў, што мне трэба жыць толькі ў Расіі.*

*Калі ласка, перадайце мой нізкі паклон рэдакцыі, бо гэта кавалачак сувязі з Беларуссю. Высылаюць "Голас Радзімы" бясплатна, сама ж падпіска і перасылка газеты на маю пенсію немагчымыя. Пенсіі маёй ледзь хапае на жыццё і на лекі.*

*Стаўрапольскі край вельмі неспакойны. Можа такое жыццё і ўскладніла мае хваробы, а можа ўжо і пара хварэць маіму сэрцу — мне 77 гадоў.*

*Дзякуй вам за ўсё, за ўсё! Усяго добрага!*

*Алеся".*

Падрыхтаваў да друку **Уладзімір СОДАЛЬ.**

### ЭСТОНІЯ

Разгарнуў я ў сваёй эстонскай кватэры 22-гі нумар "Голасу Радзімы", прачытаў у рубрыцы "Паэтычныя спробы" верш "Блакітны васілёк" ды і дзіву даўся.

Бо як жа было мне не здзівіцца, калі гэта мой верш. Перакручаны крыху, але ўсё-ткі бясспрэчна мой! Напісаў я яго ў сваім горадзеКівылі яшчэ ў 1988 годзе, пасля чаго ён патрапіў у мой першы паэтычны зборнік.

Жывём мы не ў Амерыцы, таму на першы раз палічым, што абразы мне "сааўтарка" не нанесла, тады і кампенсацыю нейкую патрабаваць ад такой шчырай беларускі і землячкі з сонечнай краіны будзе грэх.

Магчыма, я з задавальненнем падарую ёй некалі надрукаваны ў мінулым годзе ў Эстоніі мой другі зборнік вершаў "Трылабітавы бераг", але пры адной толькі ўмове, што спадарыня больш не будзе займацца плагіятам, а пры ўзнікненні вялікай спакусы з гэтага боку гляне ў наступны раз на першую старонку "Голасу Радзімы", прачытае аб тым, што ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ, ды і зразумее, што чужыя вершы пад сваім прозвішчам не толькі ў ёй небяспечна друкаваць, але нават і чытаць іх ад свайго імя дзеткам у школе. Бо не так ужо і шмат людзей у свеце пішуць зараз вершы па-беларуску, каб пры невялікай камуфляжнай перастаноўцы слоў у спякотным краі аўтар, жывучы на беразе больш халоднай Фінскай затокі, не змог пазнаць свайго старога твора.

На заканчэнне хачу выказаць спадзяванне, што няўдалая спроба дэбюту паэткі пойдзе на карысць не толькі ёй адной.

З задавальненнем пазнаёмлюся з сапраўды яе вершамі, а таксама і адкажу на ўсе магчымыя пытанні, калі яна раптам захоча іх даслаць мне ў Эстонію.

**Уладзімір ДЗЕХЦЯРУК.**Ківылі.

## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# «...ПРИМИТЕ САМЫЕ РЕШИТЕЛЬНЫЕ МЕРЫ К НЕДОПУЩЕНИЮ ВЫВОЗА

## АБ ЛЁСЕ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

У 1940—1941 гадах шматлікія агульнасаюзныя навукова-даследчыя ўстановы арганізавалі экспедыцыі ў заходнебеларускія гарады і мястэчкі. Даволі часта яны вярталіся назад у Маскву з каштоўнымі рэчамі. Напрыклад, як паведамляла газета "Известия" (1940 год, 2 лістапада), у шэрагу вывезенага Дзяржаўным гістарычным музеем было і "цудоўнай работы крэсла з косці рагоў аленя" з паляўнічай залы Нясвіжскага палаца. Той жа музей вывез два арыгінальныя разныя крэслы з епіскапскага палаца ў Пінску і мэблю з маёнтка Завішша каля Пінска. Згаданая газета "Известия" 7 верасня 1940 года паведамляла таксама, што Цэнтральны антырэлігійны музей (Масква) чакаў 2 вагоны старажытных кніг і рукапісаў, што належалі каталіцкай семінарыі ў Пінску.

Глыбокай занепакоенасцю станам агульнанацыянальнай культурнай скарбніцы, крыкам адчаю прасякнуты наступны дакумент. Ён быў адрасаваны Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Н. Наталевічам кіраўнікам савецкіх органаў, устаноў культуры. Прыводзім яго поўны тэкст.

*"Всем председателям областных и районных исполнительных комитетов, городских советов, директорам музеев.*

*В последнее время наблюдаются случаи вывоза различными научными учреждениями и даже отдельными частными лицами важнейших культурно-исторических ценностей, хранящихся в архивах БССР, музеях, быв. дворцах, имениях и т. п., производимого без ведома и разрешения правительства БССР. Так была вывезена в начале сентября т. г. весьма ценная в историческом отношении библиотека бывшей в Пинске католической семинарии в количестве 30 000 томов. Таким же образом было передано хранившееся до сих пор в Слонимском районном музее подлинное письмо Пушкина. Некоторые музеи командируют в БССР своих научных работников исключительно с целью вывоза предметов древности, культуры и искусства.*

*До сего времени не прекращаются также случаи варварского отношения к подобного рода памятникам, вплоть до полного их уничтожения. Древние курганы и городища распахиваются, иногда даже целиком сносятся. В Давид-Городке с ведома местного горсовета разрушается городище — остатки древнерусского города 12—13 вв. В г. Волковыске раскапывается (с целью добычи глины) подобное же городище. В дер. Дятлове Кохановского района взорван для получения щебня так называемый "Рогволодов камень" с надписью 1171 года. Со стороны местных органов сплошь и рядом не наблюдается должного внимания к охране исторических памятников. В связи с этим примите самые решительные меры к недопущению вывоза указанных культурных ценностей без специального на то разрешения правительства БССР. Все факты дальнейшего вывоза культурных ценностей из пределов БССР без санкции верховных органов республики должны рассматриваться как самочинные действия с вытекающими отсюда последствиями.*

*Одновременно обращаю Ваше сугубое внимание на постановку дела тщательной охраны всех памятников древности, культуры и искусства, строго пресекая всякие попытки их разрушения.*

*Председатель Президиума Верховного Совета БССР*
*Н. Наталевич*

*5.XI-1940 г.*
*г. Минск".*

(Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці, ф. 282, воп. 1, спр. 57, арк. 238).

Працуючы з архіўнымі крыніцамі, адшукаў цікавы дакумент. Ён сведчыць аб тым, як была вывезена згаданая бібліятэка з Пінска. Спадзяюся, што ёсць яшчэ і іншыя матэрыялы наконт гэтай справы.

"Секретарю ЦК КП(б)Б
тов. Пономаренко

*ДОКЛАДНАЯ ЗАПИСКА*

*Как была ликвидирована библиотека в г. Пинске*

*В г. Пинске при бывшей католической духовной семинарии осталась библиотека примерно в количестве 40 тысяч томов, состоящих главным образом из богословской, научно-исторической, художественной и др. литературы.*

*Литература была на различных языках — латинском, греческом, французском, польском, русском, языках народа [ов] Востока и т. д. Среди книг этой библиотеки имелись ценнейшие издания XV, XVI, XVII и XVIII вв., например: Вольтер — Полное собрание сочинений до 1 тысячи томов издания 1492 (памылкова: трэба — 1792. — **А. В.**). Имелся также и рукописный фонд. Библиотека представляла большую научную ценность.*

*Помещение бывшей дух. семинарии было занято под воен. госпиталь. Руководство госпиталя весь фонд литературы свалило в беспорядочном состоянии в одну комнату и неоднократно настаивало освободить помещение.*

*А в мае месяце секретарь обкома по пропаганде тов. Улазов обращался в Академию наук БССР к тов. Горину и просил оказать помощь в разборе и определении использования этой библиотеки. Однако со стороны Академии наук не были приняты соответствующие меры.*

*Командированный Академией наук один товарищ ничего не сделал, только посмотрел и уехал. 17 мая 1940 г. зам. зав. отделом пропаганды и агитации Обкома КП(б)Б тов. Бикашов обратился к секретарю ЦК КП(б)Б тов. Малину с письмом, в котором просил воздействовать на Академию наук и прислать специалистов. 5 августа тов. Малин сообщил, что Академии наук БССР разрешается принять и вывезти в г. Минск библиотеку и архив быв. дух. семинарии, но представителей Академии так и не было.*

*Зав. Облоно тов. Старикович с ведома зам. зав. отделом пропаганды и агитации Обкома КП(б)Б тов. Бикашова обратился с письмом в Центральный антирелигиозный музей с просьбой оказать помощь в разборе библиотеки и принятии некоторого количества книг, имеющих ценность для музея.*

*Центральный антирелигиозный музей прислал своего работника, которому тов. Старикович разрешил вывезти 33 тыс. томов книг. Оставшаяся литература находится: около 4 тыс. томов в городском парткабинете в неразобранном виде, 1 тыс. томов в Пинском музее и 2 тыс. в городской библиотеке.*

*Прошу тов. Пономаренко воздействовать на руководство Академии наук БССР о присылке работника, который смог бы определить ценность и порядок использования оставшейся литературы.*

*Секретарь Пинского обкома КП(б)Б Минченко*

*Исх. № 399 от 15.X.1940 г."*

(Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці, ф. 7581, воп. 1, спр. 19, арк. 191—192).

Як бачым, з-за абыякавасці асобных чыноўнікаў велізарны кнігазбор быў вывезены за межы Беларусі.

Варта адзначыць, што слабым было матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне, фінансаванне музеяў у заходняй частцы Беларусі. А якраз яны — Беларускі музей імя І. Луцкевіча ў Вільні (паводле савецка-літоўскага пагаднення ад

**Заканчэнне. Пачатак у № 35.**



# СВЕДКА СТАГОДДЗЯ

**Постаць нашага земляка, доктара філасофскіх навук, акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Парыж), старэйшага сябра астранаўтычнага таварыства, ганаровага сябра Брытанскага і Нямецкага міжпланетных таварыстваў, заслужанага прафесара Вашынгтонскага Мэрылендскага універсітэта, ганаровага прафесара Гродзенскага універсітэта імя Янкі Купалы Барыса КІТА прыцягнула ўвагу пісьменнікаў і навукоўцаў. Пра яго напісаны дзве кнігі, але постаць такога маштабу патрабуе дадатковага асэнсавання і даследавання. Апроч таго, Барыс Кіт, які нарадзіўся ў 1910 годзе, быў сведкам многіх падзей бурлівага, трагічнага XX стагоддзя, і само ягонае жыццё, нават кола знаёмых і сяброў, многія з якіх пакінулі значны след у сусветнай і беларускай навуцы і культуры, без сумніву яшчэ паслужыць тэмай не адной кнігі і навуковай працы. Пакуль што прапануем раздзелы з будучай кнігі, якую піша разам са сваім земляком, ганаровым грамадзянінам горада Наваградка, пісьменніца Вольга Іпатава. Яна так і гаворыць — "разам", бо аснову твора складаюць аповеды Барыса Кіта, запісаныя ёю падчас многіх сустрэч з ім на радзіме і ў Нямеччыне, а таксама лісты і ўспаміны сучаснікаў гэтага выдатнага чалавека, якога дасюль ягоныя вучні з Наваградскай і Віленскай беларускіх гімназій, а таксама Маладзечанскай гандлёвай школы, раскіданыя па ўсім свеце, называюць Настаўнікам з вялікай літары.**

● **Вольга ІПАТАВА.**

1934 год быў неспрыяльным для беларускай справы: польскія ўлады закрылі Наваградскую беларускую гімназію, пастанавіўшы пад выглядам дакладнага выканання новага школьнага заканадаўства замяніць яе Польскай дзяржаўнай гімназіяй імя Адама Міцкевіча. Усе добра разумелі, што гэта значыць. Будзе праз кароткі час знішчана ўся вялізная праца па выхаванню нацыянальнай беларускай моладзі. Зноў чужымі для роднай зямлі вырастуць яе сыны і дочкі...

На сходзе педагогаў Віленскай беларускай гімназіі вырашылі паслаць у Навагрaдак яго ўраджэнца. Барыс Кіт быў да таго ж выпускніком Наваградскай гімназіі, ім ганарыліся і настаўнікі, і вучні.

У ясны, задуменны, з першай жаўцізной лісця жнівеньскі дзень па вузкакалейцы прыехаў Барыс у горад, які за гады вучобы стаў родным. Драўляныя дамкі з высокімі дахамі і калонамі пад навіссю ўваходу нібы драмалі ў спакойнай ляноце, вакзал, як звычайна ўлетку, поўніўся прыезджымі: вясковыя дзядзькі, трывожна прыціскаючы торбы, натужліва чыталі расклад, кабеты ў доўгіх сукенках і капялюшыках трымалі за рукі дзяцей. Усюды чулася польская гаворка, але час ад часу гучала і свая, родная мова. Барысу шчымліва сціснула горла. Якая ж яна прыгожая, сакавітая, багатая на пералівістасць і мяккасць! Чаму ж яе чужаюцца, стараюцца, хай сабе і няўмела, але гаварыць "па-панску"? Вунь кабета расказвае спадарожніцы нейкую гісторыю, але не-не, дый прагаворыць словы з тым мілым з дзяцінства вымаўленнем, якое беспамылкова выдае ў ёй мясцовую, сваю: цётко, злоё, волё (валляк)... А дзядзька ў нізка насунутай на лоб магерцы, у клятчастай кашулі, шчыльна зашпіленай на загарэлай шыі, гучна гаворыць суседу, і словы яго нібы маслам па сэрцу маладому настаўніку:

— На Купалё, калі нашы гулянё рабілі, матка мая зелё збірала. Я ўчора ўзёў, запарыў — ногі перасталі балець. Як малады пабёг!

І так захацелася Барысу дадому да бацькі, які гаворыць з той жа разважлівай, нібы задуменнай, інтанацыяй. Аднак сягоння перад ім цяжкі, а можа, і небяспечны дзень. І ён, пастаяўшы яшчэ крыху на вакзале, пакрочыў па Валеўскай вуліцы наверх, да плошчы, каля якой размясцілася польская гімназія. Дзверы былі яшчэ зачыненыя, аднак двое хлопцаў ужо стаялі непадалёк. Барыс прыгледзеўся: у хлопцаў самаробныя, шарачковыя порткі, хаця кашулі крамныя. Хутчэй за ўсё, гэта беларусы з недалёкай вёскі. Прыслухаўся. Хлопцы ціха гаварылі паміж сабой, і ўсё тая ж, родная наваградская гаворка ў іх, хаця часам прамаўляюць пагарадскому, па-польску: "Як се хцэш". І зноў глыбокае шкадаванне ахапіла Барыса: вырастуць яны, адчуваючы сябе астатняе жыццё палякамі, і, як тысячы і сотні тысяч да іх, пачнуць пагарджаць сваім, родным, якім так патыхае зараз іхняя простая гаворка. Стануць саромецца мовы бацькоў, дый і на бацькоў забудуцца, бо як не тыя ўжо яны стануць, бацькі іхнія з рукамі, дзе навекі ўраслі мазалі... А разам са шкадаваннем адчуў малады выкладчык і гнеўную рашучасць. І ўжо з ёю падышоў да хлопцаў, умяшаўся ў іхнюю гаворку.

— Хлопцы, нашто вам ісці ў польскую гімназію? Вы ж беларусы. Я паслухаў, як вы гаворыце, — гэта ж няпроста будзе на чужы лад перастроіцца.

Яны маўчалі, гледзячы на яго, нібыта стараючыся зразумець, што хоча ад іх гэты малады, франтаваты, у модным гарнітуры чалавек. Нарэшце адзін з іх, з цёмнымі рашучымі вачамі, запярэчыў:

— А куды нам дзецца? Тут, у Наваградку, няма куды больш падацца. А гной вазіць усё жыццё таксама не хочацца.

— У Вільні ёсць беларуская гімназія. Яна мае правы дзяржаўнай. І там свае, беларускія людзі, там будуць пра вас клапаціцца лепей!

Барыс пачаў расказваць пра віленскую гімназію. Хлопцы слухалі ўважліва. Аднак, калі ён скончыў, другі, бялявы, безнадзейна махнуў рукой:

— Грошай не набярэшся ездзіць у тую Вільню. А без шматка сала, што бацька дасць, як пражывеш?

І зноў Барыс пачаў даказваць, што вучоба ў Вільні таннейшая, чым тут, да таго ж магчымая і дапамога бацькоўскага камітэта. Так на так яно і выходзіць. Але затое не трэба ламаць сябе, падстройвацца пад паноў.

Тым часам да гімназіі падыходзілі ўсё новыя і новыя вучні. Хутка каля Барыса ўтварыўся цэлы гурток. Першыя два слухачы сталі пераказваць тое, пра што гаварылася раней.

— А чаго вы так за Вільню агітуеце? — недаверліва запытаўся бялявы. — Мабыць, не такая і добрая тая гімназія. І хто вы такі? Мо хлусіце ўсё?

Калі ж Барыс назваў сваё прозвішча, пачуліся галасы:

— Дык вы Кіта? Гэта ж наш, наваградскі! Ён не будзе хлусіць. Давайце, хлопцы, думаць. Мо і праўда не варта лезці ў гэтыя цянёты, што паны нам тут раскладаюць. Бач ты, беларускую гімназію закрываюць, каб нам ходу не даваць!

Аднак былі і іншыя галасы і настроі. Частку вучняў, большасць з якіх былі гараджане, супра접джалі бацькі. І, пачуўшы, аб чым ідзе размова, некаторыя з іх, асабліва маці, абураліся.

— Няўжо хтосьці і сапраўды пойдзе ў тыя хлопскія класы?

І тады Барыс бачыў, як нібыта цямнелі твары ў тых, хто толькі што слухаў яго з радаснай надзеяй у вачах. Яны адыходзілі, пасля зноў вярталіся да дзвярэй. Некаторыя, паслухаўшы яго, у роздуме маўчалі, але, павагаўшыся, усё ж ішлі ў дзверы, што былі ўжо шырока адчынены. Былі і такія, хто, паслухаўшы яго, ужо не адыходзіў і, нібы дапамагаючы, сустракаў тых, хто прыходзіў, зняважлівым:

— І вы прыйшлі ў палякаў пертварацца?

Адзін жа высокі, трохі як сонны юнак, ужо запісаўшыся ў польскую гімназію, раптоўна нырнуў назад і, вярнуўшыся, паказаў дакументы, спытаў:

— А дзе будзеце запісваць у беларускую?

Кіт, ужо радасна ўзбуджаны, растлумачыў. Увогуле, настрой яго, спачатку прыгнечаны нярадаснымі думкамі, імкліва павышаўся. Ён так і правёў цэлы дзень ля гімназіі, толькі аднойчы схадзіўшы ў сталовую, каб выпіць халоднага ліманаду і хаця трохі асвяжыцца. Яму было прыемна, што ягонае імя было вядома гэтым выпускнікам, і ён здагадваўся, чаму: іхнія старэйшыя браты, а мо і сёстры, мабыць, вучыліся ў беларускай гімназіі. А можа, бачылі яго на сцэне, калі чытаў вершы ці ўдзельнічаў у абразках. Прыклад беларуса, такога ж, як яны, сялянскага сына, што не толькі скончыў гімназію, але і стаў студэнтам універсітэта ў сталічнай Вільні, моцна іх уражваў. А можа, уражваў яшчэ і тым, што, выбіўшыся ў людзі, ён не толькі не адцураўся роднай мовы, але і стаяў за яе гарой.

Усім, з кім размаўляў малады выкладчык, было сказана, што збор заўтра ля памяшкання беларускай гімназіі. І калі Кіт назаўтра прыйшоў да знаёмага будынка, ён з радасцю ўбачыў, што вучняў — хлопцаў і дзяўчат — набралася каля трыццаці. А ўвогуле набралася іх каля сотні.

Гэта быў поспех, ён акрыліў Барыса. Вось што можна зрабіць, калі ўпэўнены ў сваіх сілах! Трэба будзе рабіць так штогод — каб не даць уладарыць тут толькі палякам, каб моладзь адчувала, дзе яна жыве.

Паехалі ў Вільню па той жа калейцы. Настрой быў прыўзняты. Ехалі разам, спявалі беларускія песні, шмат жартавалі. Забіўшыся ў куток, ля акна сціпла сядзела невысокая дзяўчына з кірпатым носікам, з дапытлівымі вачамі.

**Працяг будзе.**

# «...УКАЗАННЫХ КУЛЬТУРНЫХ ЦЕННОСТЕЙ...»

## Ў 1939—1941 ГАДАХ

10 кастрычніка 1939 года, уся Віленшчына перададзена Літве), этнаграфічны музей Віленскага універсітэта, музеі ў Гродне, Пінску, Брэсце, Слоніме, Баранавічах, Дзісне — у 1920—1930 гады ("за польскім часам") займаліся карыснай справай, якая паспрыяла захаванню і вывучэнню мастацка-гістарычных каштоўнасцей беларусаў, абуджэнню іх нацыянальнай свядомасці, выхаванню патрыятызму. Зыходзячы з даследавання В. Лабачэўскай "Зберагчы самабытнасць: З гісторыі народнага мастацтва і промыслаў Беларусі" (Мн., 1998), музеі таксама сваёй дзейнасцю рэальна супрацьстаялі афіцыйнай палітыцы польскіх улад на каланізацыю і культурную асіміляцыю "ўсходніх крэсаў" (так называлі ў міжваеннай Польшчы Заходнюю Беларусь). Таму важна было прадоўжыць пачатую самаахвярнымі людзьмі працу, не змарнаваць яе.

Аб складаных умовах работы аднаго з такіх музеяў у перадваенныя гады сведчыць урывак з наступнага архіўнага дакумента. Гэта вытрымка з дакладной запіскі "Аб стане работы палітпрасветніцкіх устаноў раёна", падрыхтаванай у жніўні 1940 года загадчыкам аддзела прапаганды і агітацыі Слонімскага райкама партыі Генькіным. У ёй ідзе размова пра Слонімскі музей.

*"В городе Слониме имеется краеведческий музей, существующий с 20.IX.29 г., состоящий из отделов: доисторических времён, среднего и позднего каменного века, минералогический — коллекция минералов, приспособленных по учебникам средних учебных заведений, ископаемых Слонимского района, коллекции печатей, медалей, знаков, посуды, предметов религиозного культа, предметов исторического значения для России, отдела рукописей, начиная с XVI в. и ряд других.*

*Музей по существу не работает, а производится пока сортировка по годам и делам старых рукописей и перевод на русский язык. Он размещён в 2-х маленьких неприспособленных жилых комнатах, внизу столовая, рядом 2 квартиры, причём вход в квартиры через музей. Так что вообще нет гарантии, что там всё в целости, а там имеются довольно ценные экспонаты. А музейный фонд не проверяется, ибо негде его разложить и расставить, не говоря уже о том, что никто не занимается собиранием новых экспонатов, которые, безусловно, можно было бы собирать. Музей лишён возможности посещать школы, и он не ведёт ту политико-воспитательную работу, которую он должен был бы вести. Посему это по существу не музей, а 2 маленькие комнаты, где свален музейный фонд. Неоднократные обращения в горсовет и райисполком по вопросу о предоставлении помещения для музея ни к чему не привели...*

*Финансирование музея осуществляется Слонимским районо, бюджет музея на 1940 г. составляет 21 500 рублей.*

*Заведующий музея, бывший полковник царской армии, окончил в прошлом Московский археологический музей (*памылкова: трэба інстытут. — А. В.*) и теперь всё ещё ходит с двуглавым орлом царской России. Это тоже характеризует отношение районо к музею: то, что он не имеет до сего времени заведующего советского, преданного нам человека".*

(Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобл., ф. 7580, воп. 1, спр. 161, арк. 31).

Неабходна дадаць, што сярод каштоўных экспанатаў Слонімскага музея былі галава старажытнага ідала ("слонімскі ідал"), аўтографы М. Карамзіна, Л. Талстога, 2 лісты А. Пушкіна да Н. Ганчаровай і іншае. А той загадчык музея, былы царскі палкоўнік, да якога праяўлялі недавер партыйныя органы, — гэта не хто іншы, як яго заснавальнік Іосіф Стаброўскі (1870—1968). Менавіта яго намаганнямі на аснове яго ўласных калекцый і паўстаў у свой час гэты музей.

Безумоўна, што ў даным артыкуле зроблены спробы пераасэнсавання няпростых і нават сумных старонак гісторыі Бацькаўшчыны. Патрэбны новыя ўзважлівыя, заснаваныя на шырокай крыніцазнаўчай базе, даследаванні гэтай і іншых праблем, звязаных з падзеямі 1939—1941 гадоў, а таксама пераадоленне некаторых стэрэатыпаў. І гэта для таго, каб яшчэ раз пацвердзіць, што ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР паспрыяла нацыянальнай кансалідацыі беларускага народа.

**Аляксандр ВАБІШЧЭВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

## ДАБРАЧЫННАСЦЬ



● **Сяргей ТАЛОЧКА.**

Гуманітарны груз на 30 тысяч нямецкіх марак перададзены ў клініку Навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны і эндакрыналогіі ў Аксакаўшчыне. Такую дапамогу аказалі жыхары нямецкага горада Эрцінген па ініцыятыве бургамістра Ганса Петэрмана. На сабраную суму закуплены медыкаменты фірмы "Шэрынг". Гэтыя прэпараты будуць выкарыстаны ў аддзяленні прамянёвай дыягностыкі для выяўлення асабліва складаных паталогій.

НА ЗДЫМКУ: ваенны аташэ Германіі ў Рэспубліцы Беларусь Хайнц ШТЭЛЬМАХЕР перадае медыкаменты галоўнаму ўрачу клінікі Сяргею КАРЫЦЬКУ.

РАЗВІТАННЕ

# АПОШНІ ПОЗІРК Сяргея БРУШКО



**Лёс наканаваў Сяргею Брушко 42 гады. Згасла зорка, якая выпраменьвала дабрыню, спагаду, надзею.**

**Менавіта Сяргей Брушко, вядомы майстар, падарыў нашай газеце сваю фотавыставу, якая адкрыла конкурс "Беларусь у маім сэрцы" ("Голас Радзімы" № 49, 10.12.98 г.). Беларусь вачыма Сяргея ўбачылі ў многіх краінах свету. Чытачы газеты адгукнуліся, падтрымалі гэтую тэму, падзяліліся запаветнымі думкамі, успамінамі.**

**Сяргей нарадзіўся ля Нясвіжа і на ўсё жыццё захаваў цікавасць да вясковага жыцця. Праца ў Мінску не адахвоціла яго ад вандровак па краіне. Ён не стамляўся ўглядацца ў твары і побыт сваіх суродзічаў. Сімвалічна, што адна з выніковых работ Сяргея Брушко — сумесны беларуска-швейцарскі фотаальбом — мае назву "У пошуках Беларусі. Год 12-ты пасля Чарнобыля".**

**Думаецца, што многія мінчане захавалі ў памяці і яго першую выставу "на колах". Яна была размешчана ў трамваі, які праязджаў праз увесь горад, і тысячы гараджан пасябравалі з героямі Майстра.**

**Сяргей шмат працаваў і пакінуў зайздросную спадчыну. Давайце ж зноў паглядзім на Беларусь вачыма Сяргея Брушко.**















# «...ДУША МАЯ — ТЫ Ў САДЗЕ РУЖ»

Пачатак на 5-й стар.

Напрыклад, Пушкін бачыў задачу пісьменніка, як і Міцкевіч, дарэчы, — вытлумачыць душу славянскую ва ўсіх яе гістарычных і этнічных катаклізмах і страсцях, знайсці, вынасіць і выпакутаваць, ажыццявіць і паказаць усяму свету варты славянства шлях, пераадольваючы пры гэтым цяжкасці, развязваючы вузлы. Варта сказаць, што менавіта А. Пушкін звярнуў такую асаблівую ўвагу на святарства. Фактычна, уся старабеларуская кніжнасць у значнай ступені ствралася людзьмі, так ці інакш звязанымі з царквою, у каталіцкай традыцыі — з касцёлам. Гэта былі братчыкі, ці людзі, якія працавалі ў царкоўных друкарнях, ці непасрэдна самі святары. Менавіта адтуль прыйшла на нашы землі асвета. І ўсе нашы старабеларускія князі (тут варта згадаць і даследаванні заўчасна спачылага Міколы Ермаловіча) былі безумоўна хрысціянамі. Інакш ні такі князь, ні кароль не мелі права ўладарыць над гэтым этнасам. І таму задача старабеларускага кніжніка і сучаснага пісьменніка бачыцца мне ў тым, каб у спрадвечнай барацьбе светлага жыцця і змрочнага адыходу абраць Вечнасць.

***— Адзін з раздзелаў вашай кнігі "Абранне Вечнасці" — паэтычны. Я б назвала яго нават "кнігай у кнізе". Амерыканскі палітолаг і славіст, доктар гуманітарных навук, ганаровы член-карэспандэнт Славянскай акадэміі Расіі ў рэцэнзіі да "Абрання Вечнасці" пісаў, што "яднае ж старажытнага кніжніка і сучаснага пісьменніка нацыянальная мова з яе універсальнай і анталагічнай глебай". Як гэтая самая мова, што лучыць пісьменніка старажытнасці з сучаснасцю, давала вам магчымасць сказаць пра самае сакральнае, самае святое і светлае ў вершаваных радках? Што значыць для вас паэзія?***

— Стаўленне да слова ў паэзіі як да "Святога Святых" прывяло яе да адраджэння ва ўласнай мастацкай і навуковай творчасці старабеларускага жанру аб'яўненняў, які ўзнік з патрэбы душы сярэдневяковага хрысціяніна да размовы з Богам як бацькам, і з Багародзіцай як маці.

Зварот да старажытнай кніжнасці пераканаў мяне ў тым, што мова — гэта агульны код, сістэма сістэм. Фактычна кожны стыль ёсць рэшткі папярэдніх эпох, якія існуюць у форме папярэдніх мастацкіх напрамкаў. І творчасць сучаснага пісьменніка яднае ў сабе ўсё гэта. Таму ў мяне былі і драматычныя рэчы — "Ілірыйская Беатрычэ" і "Адвечны Лір", старабеларуская і старасербская тэматыка, вершы жанру аб'яўненняў.

Менавіта мова дапамагла знайсці абсалютна новыя вобразна-выяўленчыя сродкі, якія адраджаюцца ў сучасным пісьменстве праз жанр духоўных драматычных паэм-кадэцый. Паэзія, можна сказаць, існавала крыху раней маёй навуковай творчасці, а ў нейкай ступені і паралельна як духоўная падтрымка. Паэзія ў маім уяўленні змалку атаясамлівалася з райскім садам, безлічу ружаў з дзіцячых мараў, як у вершы:

*Ад прахалоды ажываю,*
*Я Божы Крок тут адчуваю.*
*Душа мая бы ў Садзе Руж!*
*Імгення гэткага не руш.*
*Няхай марнеюць, тонуць крокі*
*І Сад ухутваюць Аблокі,*
*Ярчэй Надзей — галінкі зрух...*
*Душа мая, ты — ў Садзе Руж!*

***— Алена, дзякую вам за гэтыя ўзнёслыя радкі, няхай пануюць у нашым жыцці дабрыня, згода і міласэрнасць з Райскага Саду кожнай Душы.***

Гутарку вяла Галіна **ШАБЛІНСКАЯ**.


**«Голас Радзімы»**

**Галоўны рэдактар**
**Наталля САЛУК**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнікі **Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Яўген КАЗЮЛЯ, Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 652 экз.
Зак. 2282.
Падпісана да друку 11.9.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).